**Анатолю Шувалаву ўдалося выйграць суд у Рэспубліцы Беларусь**



2 стар.



**Палавое выхаванне – не разбэшчанасць, а фактар цывілізаванага свету**



4 стар.





**Стаўры і Гаўры**

6 стар.



ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 20(111) 16--22 траўня 2002 года | Кошт па дамове


# 18 мая — дзень работнікаў фізічнай культуры і спорта



*Фота В.Саланінкі*

| **Надвор`е*** | Агляд складзены па дадзеных 13/05/2002 0:00 GMT | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 16/5 Чц | 17/5 Пт | 18/5 Сб | 19/5 Нд | 20/5 Пн | 21/5 Ат | 22/5 Ср | 23/5 Чц |
| Тэмпература: з 14 гадзін | +15 | +16 | +21 | +24 | +17 | +18 | +11 | +13 |
| з 2 гадзін | +13 | +9 | +13 | +16 | +17 | +9 | +10 | +7 |
| Ціск, мм рт.сл. | 749 | 747 | 741 | 737 | 736 | 738 | 746 | 753 |
| Тэндэнцыя ціску | +1 | -2 | -6 | -4 | -1 | +3 | +8 | +8 |
| Накірунак ветру | Пд-З | Пд-З | Пд | Пд-З | Пд-З | Зах | Пн-З | Пн |
| Хуткасць ветру, м/с | 6 | 5 | 5 | 5 | 6 | 2 | 7 | 5 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

## НАВІНЫ

Усебеларускі фестываль камернай музыкі пройдзе ў Мсціславе 25-26 траўня. Наладжанне фестывалю ўлады Мсціслава плануюць выдаткаваць 8,5 млн. рублёў.

Людміла Карпенка, удава Генадзя Карпенкі, атрымала статус палітычнай уцякачкі ў Германіі. Улады Германіі разглядалі заяву сп-ні Карпенкі тры месяцы. Разам з удавою Генадзя Карпенкі палітычны прытулак атрымалі яе сын Зміцер і дачка Таццяна з унучкаю Насцяй. Сям'я Карпенкаў цяпер жыве ў мястэчку Эфінген пад Штутгартам. Статус палітычнага ўцекача дае права на грашовую дапамогу з боку дзяржавы і бясплатнае навучанне нямецкай мовы.

Украінскі суд зняў усе абвінавачванні з віцэ-прэм'ера Юліі Цімашэнкі. Раней пракуратура заяўляла, што Цімашэнка вінаватая за службовы падман, прыхаванне валюты, кантрабанду газу і даванне хабару экс-прэм'еру Паўлу Лазарэнку. Суд таксамаануляваў абвінавачванне мужа Цімашэнкі – Аляксандра, які разам з ёй знаходзіўся пры кіраўніцтве карпарацыі "Адзіныя энергетычныя сістэмы Украіны". Менавіта з гэтай карпарацыяй звязана большасць абвінавачванняў.

## Выпісаць надзейней

Вельмі часта адбываецца так, што мы не можам задаволіць попыт пакупнікоў газеты. Яны не паспяваюць купіць газету на рынку, так як ім яе ўжо не хапае. Таму мы раім лепш выпісаць газету, чым яе купіць.




*Наталля Сядова навучаецца ў Полацкім гандлёва-тэхналагічным каледжы. Вельмі любіць Глыбокае і заўжды з нецярпеннем чакае выхадных, каб сустрэцца з сябрамі ў родным горадзе. Пастаянны чытач «Вольнага Глыбокага»*

**Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" --63668.**

**Кошт падпіскі**

**на месяц --1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.**

# Штотыдзень — новая крама!

Варта тыдзень не прайсціся па нейкай вуліцы, як заўважаеш, што крамы растуць у Глыбокім як грыбы пасля цёплага дажджу. Заезджыя паўстаўчане здзіўляюцца: "У вас, у Глыбокім, насамрэч нейкі гандлёвы бум! У нас такога няма. Нашы крамы можна пералічыць на пальцах адной рукі!"





Як тут не згадаць публікацыі 70-гадовай даўнасці ў глыбоцкай прэсе, дзе яўрэі, якія складалі ці не 80% жыхарства, называлі наш горад "маленькім Данцыгам". Пэўна ж не за тое, што ўвесну, на Кагальнае возера прылятаюць чайкі. Па сцверджанням старажылаў, на той час, у Глыбокім мелася нялічана крам, і горад апраўдваў фразу, якая пісалася ў розных энцыклапедычных даведніках: "шматлюднае і багатае гандлёвае мястэчка Глыбокае". Вобразна гэта адпавядала багатаму купецкаму гораду Данцыгу (цяпер Гданьск).

Вось і сёння, пэўна паўплывалі "гены" мінулага і "маленькі Данцыг" вяртаецца зноў. Па Глыбокаму папаўзла чутка, што за травень месяц у Глыбокім адчыніцца 108 новых крам!

Мы вырашылі не давярацца толькі чуткам, а спраўдзіць інфармацыю ў прадстаўнікоў раённай адміністрацыі. Паводле крыніц, якія заслугоўваюць даверу, можна зрабіць высновы, што ісціна, хоць і не цалкам адпавядае сапраўднасці, але нешта падобнае ў Глыбокім адбываецца. Справа ў тым, што раённае кіраўніцтва прыняло рашэнне даваць дазвол на ўзвядзенне гандлёвых кропак прыватным прадпрымальнікам з умовамі, што іхнія крамы будуць адпавядаць усім сучасным санітарным патрабаванням з наяўнасцю ў іх і туалетаў, і рукамыйнікаў, і г.д.. Усе крамы павінны адпавядаць стылю "еўра". Не павінна ў горадзе быць крам, падобных на хлявы. Горад мусіць насіць прыстойны еўрапейскі выгляд.

Таму колькасна, з улікам тых нехлямяжых крам, якія ўласнікі вымушаны мадэрнізаваць пад "еўра" і тых, якія ўзводзяцца наноў, такая лічба можа быць і не далёкая ад рэчаіснасці.

*Ул. Скрабатун, фота В. Саланінкі*

# Жыхар Крычава выйграў судовую справу ў дзяржавы

**Жыхару Крычава Анатолю Шувалаву ўдалося выйграць суд у Рэспубліцы Беларусь.**

6 мая на працэсе ў Крычаўскім раённым судзе суддзя па адміністрацыйных справах Міхаіл Бравусаў вырашыў, што дзяржаўнае казначэйства павінна выплаціць спадару Шувалаву 250 тысяч рублёў у якасці кампенсацыі за нанесеную маральную шкоду.

Яшчэ ў верасні 1999 года Крычаўскі завод гумавых вырабаў імя 50-годдзя БССР (КЗГВ) быў ашуканы расійскай фірмай-аднаднеўкай "Сэлвер" на суму 16109352 рубля, што складала на той час 6195,9 мінімальных заробтных плат. У выніку следчых дзеянняў начальнік аддзела збыту КЗГВ А. Шувалаў разам з маладым эканамістам гэтага ж аддзела аказаўся на лаве падсудных і Крычаўскім раённым судом быў прызнаны вінаватым па артыкуле №428 ч. 1 КК РБ (недобрасумленнае выкананне службовых абавязкаў службовай асобай...). У якасці пакарання на той час ужо былому начальніку аддзела Шувалаву прысудзілі 1 год зняволення з адтэрміноўкай прысуду і 5 мільёнаў рублёў выплаты (каля 2000 "мінімалак") на карысць завода.

Аднак Анатоль Шувалаў не згадзіўся з прысудам і абскардзіў яго ў Магілёўскім абласным судзе. У выніку разбіральніцтва была даказана яго невінаватасць, што і выклікала адмену прысуду Крычаўскага раённага суда.

Адміністрацыя завода, якой усё не спадабаліся пошукі справядлівасці, перыядычна пераводзіла яго з аднаго месца працы на другое. Сп. Шувалаву нават аб'явілі аб скарачэнні і прапанавалі пасаду простага рабочага на тым жа заводзе.

У выніку, Анатоль Шувалаў падаў іск на казначэйства Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем кампенсацыі нанесенай яму маральнай шкоды, якую ацаніў у 29,8 мільёнаў рублёў. Суд цалкам прызнаў неправату дзяржавы, аднак ацаніў трохгадовае змаганне толькі ў 250 тысяч. Разам з тым, суддзя абавязаў Крычаўскую міжрайпракуратуру напісаць своеасаблівы апраўдальны ліст, які будзе зачытаны на заводзе перад супрацоўнікамі Анатоля Шувалава.

*Андрэй Кузьмін*

# Колькасць настаўніцкіх кадраў скарачаецца

Міністэрства адукацыі аб'явіла пра намер істотна скараціць колькасць настаўніцкіх кадраў. Пры гэтым ведамства спасылаецца на складаную дэмаграфічную сітуацыю ў краіне, на лішак выпускнікоў педагагічных навучальных установаў і на тое, што з новага навучальнага году вучні старэйшых класаў перайдуць на пяцідзённы навучальны тыдзень. Акрамя таго коштам вызвалення месц урад мае намер павысіць заробак тым, хто захавае за сабой працоўнае месца.

Як паведамілі Радыё Свабодзе ў адной з мінскіх гімназій, адбор кадраў будзе ісці перш за ўсё згодна стажа і кваліфікацыі: такім чынам менш за ўсё шанцаў застацца ў штаце маюць учарашнія выпускнікі ВНУ. Для тых, каго не зволяць, будзе ўведзены падоўжаны працоўны дзень (з 8.00 да 16.00) і скарочаны летні адпачынак.

Дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас лічыць, што такія дзеянні не павінны адбывацца так раптоўна і ўпотайкі ад грамадскасці:

"Тое, што зараз адбываецца з адукацыяй, звязана не толькі з дэмаграфічнай сітуацыяй, але і з эканамічнай. Пра гэта сведчыць тое, што летась школы ні капейкі не атрымалі на штогадовы рамонт, не кажучы ўжо пра капітальны рамонт. Мы ўжо маем прадпісанне скараціць штат на 10%, нягледзячы на тое, што ў нас колькасць вучняў не мяняецца. Усё гэта сведчыць пра тое, што эканамічная палітыка церпіць фіяска, і гэта трэба было прадугледзіць. Такія рэзкія дзеянні – так рэформу не робяць..."

Некалькі гадоў таму была сустрэча з настаўніцкім корпусам краіны, вельмі прадстаўнічая сустрэча. На ёй было заяўлена аб недапушчальнасці згубы настаўніцтва. Сёння, відавочна, гэтая згуба для краіны не такая адчувальная.

*Паводле «Радыё Свабода»*

## Беларус разбурыў сцяну Вільнюскай мытні

Вадзіцель беларускага аўтацягача Юрый Лукін на сваім "Mercedes-Benz" урэзаўся ў будынак Вільнюскай тэрытарыяльнай мытні. Ад удару развалілася адна сцяна трохпавярховага будынка, і пад разваліналі аказаліся 5 легкавых аўтамабіляў мытнікаў і іх кліентаў.

Праверкай гэтага інцыдэнту ўстаноўлена, што Лукін, чакаючы афармлення свайго грузу, усю ноч п'янстваваў з вільнюскімі сябрамі. І гэты "тэрарыстычны" акт ён учыніў не наўмысна, а толькі таму, што быў у стане алкагольнага ап'янення.

## В'етнамцаў і літоўца выдварылі з Беларусі

Супрацоўнікі ДАІ спынілі на дарозеПружаны-Ружаны мікрааўтобус "Фіят-Дуката", якім кіраваў грамадзянін Літвы. У гэтым аўтамабілі, дзе для большай умяшчальнасці адсутнічалі нават сядзенні, міліцыянеры ўбачылі людзей, якія сядзелі на падлозе. Пры бліжэйшым знаёмстве аказалася, што гэта 14 грамадзян В'етнама без дакументаў і рэчаў, якія накіроўваліся да мяжы, каб нелегальна трапіць у Польшчу. І хоць вадзіцель-літовец запэўніваў, што "падабраў" сваіх пасажыраў недалёка ад Мінска і згадзіўся давезці іх да Брэста, у праваахоўных органаў былі ўсе падставы меркаваць, што ён займаўся перавозкай нелегалаў ужо не першы раз.

Пасля разбору няпрошаныя госці пад канвоем былі накіраваны туды, адкуль прыбылі - у Расію. Быў выдвараны з тэрыторыі Беларусі і літоўскі вадзіцель.

## Мерапрыемствы па святкаванню 900-годдзя Ефрасінні Полацкай

Слаўная дата ў свецкім і духоўным жыцці - 900-годдзе Ефрасінні Полацкай - шырока адзначаецца ў Прыдзвінні. Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня абласнога аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванню юбілея, намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Пётр Южык, асноўныя ўрачыстасці пройдуць у Полацку з 25 мая па 5 чэрвеня. Гэта будзе фестываль праваслаўных песнапенняў, канцэрт духоўнай музыкі і аўтарскай песні, міжнародны фестываль бою званоў, святочныя богаслужэнні, малебен і хрэсны ход. Аднак свята выйшла далёка за рамкі гэтага тэрміна і рэгіёна. У навучальных установах вобласці пачаліся цыклы гутарак, тэматычных урокаў, праводзяцца вусныя часопісы і конкурсы сачыненняў, рэфератаў, малюнкаў па тэме "Жыццё, духоўная і культурная спадчына Ефрасінні Полацкай". Арганізоўваюцца выстаўкі ў бібліятэках, прысвечаныя даце, тэматычныя экскурсіі ў месцы, звязаныя з імем святой. Будзе прадоўжана праграма навуковых канферэнцый і чытанняў, што пачалася ў лютым Полацкімі праваслаўнымі агульнаадукацыйнымі чытаннямі. Грамадскасць Прыдзвіння прыме ўдзел таксама ў праграме стварэння друкаванай прадукцыі і відэафільмаў, прысвечаных 900-годдзю кананізаванай царквой асветніцы зямлі беларускай.

## Падручнік па гісторыі Беларусі

26 красавіка, Мінск /Марыя Агафонава - БЕЛТА/. Першая частка новага падручніка па гісторыі Беларусі будзе гатова ўжо да 1 чэрвеня гэтага года. Яго аўтар - дацэнт кафедры ўсходне-славянскай і расійскай гісторыі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта Якаў Трашчанкоў. Паводле яго слоў, да канца чэрвеня павінна завяршыцца работа і над другой часткай падручніка.

Цяпер ідзе рэдагаванне тэкстаў, якія затым будуць вынесены на разгляд дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў. Наступным этапам будзе накіраванне гэтых рукапісаў у агульнаадукацыйныя школы і ВНУ для правядзення шырокай экспертызы.

Гэты двухтомны падручнік па гісторыі Беларусі ствараецца па даручэнню кіраўніка дзяржавы і прызначаны для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў, а пасля адпаведнай адаптацыі ён паслужыць добрую службу і вучням сярэдняй школы.

*БЕЛТА*

## Пражытковы мінімум

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 2002 года № 548 зацверджаны бюджэт пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўным сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах сакавіка 2002 года.

Ён склаў 74414 рублёў (42,4 $) у сярэднім на душу насельніцтва з разліку на месяц. Для працаздольнага насельніцтва гэта велічыня складзе 79803 рублі (45,4 $), для пенсіянераў -- 62468 рублёў (35,6 $), студэнтаў -- 77894 рублёў (44,4 $), для дзяцей ва ўзросце да 3 год -- 63755 рублёў (36,3 $). Самы вялікі пражытковы мінімум для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 год -- 86224 рублёў (49,1 $).

*"Экапрэс"*

# Які ваш любімы від спорта?

**Фізічная культура і спорт. Што яны азначаюць у вашым жыцці, як вы да іх адносіцеся і якому віду спорта вы аддаеце перавагу? Вось на гэтыя пытанні мы, Таццяна Смоткіна і Васіль Саланінка, папрасілі адказаць глыбачан.**



**Уткіна Крысціна:** Любімы від спорта – баскетбол, на мой погляд, адзін з самых дынамічных відаў спорта.



**Уткіна Юлія:** У вольны час вельмі люблю займацца спортам, любімы від – баскетбол.



**Бахір Пётр:** Аддаю перавагу гульнявым відам спорта: Футбол, валейбол.



**Таццяна і Вольга:** Мы наогул вельмі спартыўныя дзяўчаты, асабліва нам падабаецца лёгкая атлетыка і валейбол.



**N.N:** Любімы від спорта-- валейбол



**Парфяновіч Юлія Іванаўна:** Любімы від спорта – гімнастыка, я сама займалася аэробікай.

## «Беларускі спінінг-- 2002»

Чэмпіёнам Беларусі па лоўлі рыбы стаў Павел Амбрасевіч са Смаргоні. 1 мая на Рэспубліканскіх спаборніцтвах "Беларускі спінінг-2002", якія праводзіліся на возеры Вішнеўскае, яму ўдалося з дапамогай спінінгу злавіць шчупака вагой амаль 4 кілаграмы. Усяго ж у турніры прынялі ўдзел каля 500 рыбаловаў-аматараў не толькі з Беларусі, але і з краін Балтыі, расказаў карэспандэнту БЕЛТА адзін з галоўных арганізатараў гэтай масавай рыбалкі шэф-рэдактар газет "Белорусский рыболов" і "Белорусский медведь" Роберт Андрэеў. Самаму маладому ўдзельніку спаборніцтва было ўсяго 9 гадоў, і лавіў ён разам з бацькам. Спаборніцтвы праводзіліся пад эгідай Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і Нацыянальнага парка "Нарачанскі".

## Запазычанасці дзяржавы

Запазычанасць па заробках у рэспубліцы на 28 красавіка склала 27 мільярдаў, з якіх 23 мільярды ў аграпрамысловым сектары, паведаміў дырэктар дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі Іван Селядзеўскі.

Паводле яго ных слоў, 31 сакавіка дадзеная запазычанасць складала 71 мільярд рублёў. На дадзены час больш за 1 млн. чалавек у рэспубліцы затрымліваюцца выплаты заробкаў, паведаміў ён. Селядзеўскі таксама адзначыў, што па стану на 29 красавіка выплаты пенсій затрымліваюцца ад 7 да 12 дзён. Дадзенае становішча ён патлумачыў "эканамічным становішчам" і падкрэсліў пры гэтым, што "практычна ўсе банкі адмовіліся даваць крэдыты пад выплаты заробку". Разам з тым ён адзначыў, што Мінпрацы "спыніла прымяняць санкцыі з-за затрымак заробкаў да кіраўнікоў у аграпрамысловым сектары", Селядзеўскі таксама сказаў, што "сельская гаспадарка рэспублікі "праела" сябе на 9-10 месяцаў наперад".

## Моладзь святкуе Дзень Еўропы

Згодна з адпаведным рашэннем круглага стала маладзёжных арганізацый г. Віцебска, што быў наладжаны МЦГС «Верас» 21 красавіка, з 5 па 9 траўня ў горадзе адбыўся шэраг праеўрапейскіх мерапрыемстваў. У нядзелю а 13 гадзіне ў раёне Летняга амфітэатра прадстаўнікі некалькіх моладзевых арганізацый і ініцыятыў правялі вулічную віншавальную акцыю. 6 траўня для лідэраў і актывістаў недзяржаўнага сектара быў наладжаны семінар на тэму "Гістарычныя перадумовы стварэння Еўрасаюза". У аўторак у Інтэрнэт-цэнтры ў Віцебскай абласной бібліятэцы прайшла прэзентацыя новага вэб-рэсурса пра еўрапейскую інтэграцыю. У чацвер прадстаўнікі маладзёжных арганізацый плануюць павіншаваць супрацоўнікаў консульства Латвіі ў Віцебску з Днём Еўропы, які латышы святкуюць 9 траўня.

*«BN»*

## Каб актывізаваць грамадскасць

21 красавіка ў Оршы адбыўся семінар "Прыцягненне грамадскасці да вырашэння экалагічных праблем". Ён быў наладжаны маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Зьвяз" у межах праекта, які быў падтрыманы фондам ISAR. Каля 20 прадстаўнікоў сацыяльных арганізацый і гарадскіх улад абмеркавалі экалагічныя праблемы аршанскага рэгіёна ды шляхі ўплыву грамадскай думкі на іх вырашэнне. Гэта першая з серыі такіх сустрэч. Плануецца, што яны будуць працягвацца да чэрвеня ўключна. Як мяркуе мясцовы грамадскі актывіст Алесь Шутаў, вынікам спатканняў можа стаць стварэнне экалагічнай арганізацыі ў Оршы.

*МЦГС «Верас»*

## Орша адрадзіла старажытную сімволіку

Сесія гарсавета Оршы зацвердзіла ўзоры герба і сцяга горада. Герб горада ўяўляе сабой жоўты паўмесяц з белым крыжом над ім на блакітным полі шчыта. Гэта тая самая сімволіка, якая была нададзена Оршы ў 1620 годзе, калі места атрымала права на самакіраванне. Сцяг уяўляе сабой белае палотнішча з двума блакітнымі (больш шырокай і вузейшай) палоскамі ўнізе, якія сімвалізіруюць адпаведна рэкі Дняпро і Аршыцу. У цэнтры сцяга змешчана выява гарадскога герба.

*«BN»*

## Апазіцыя адзначыла гадавіну трагічных падзей

26 красавіка на Віцебшчыне адбыліся апазіцыйныя мерапрыемствы, прысвечаныя шаснаццатым угодкам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

А пятай увечары на плошчы Перамогі сабраліся каля 20 прадстаўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Адсюль пад мерныя ўдары гонга яны рушылі праз цэнтар горада. Над шэсцем луналі нацыянальныя і партыйныя сцягі. Адзін з дэманстрантаў трымаў плакат "Так жыць нельга!" Па шляху шэсця "аб'яднаныя грамадзяне" раздавалі прахожым улёткі з нагоды Дня чарнобыльскай трагедыі. Акцыя не была санкцыянаванай, але яе ўдзельнікі не сустрэлі ніякіх перашкод з боку міліцыі. Прыблізна а палове шостай шэсце прыйшло да пляца Леніна. Тут ужо знаходзілася група актывістаў з "Маладога фронту" і партыі БНФ. Яны праводзілі дазволены пікет пад лозунгам "Не – палітыцы ядзернага забойства беларускага народа!" Але неўзабаве пікет быў згорнуты. Яго ўдзельнікі далучыліся да санкцыянаванага мітынгу, які пачаўся на пляцы Леніна. Пасля яго завяршэння «маладафронтаўцы» ўсклалі адмысловы "чарнобыльскі" вянок да помніка Леніну.

У той жа дзень каля кінатэатра "Перамога" ў цэнтры Оршы з 17 да 19 гадзін адбыўся санкцыянаваны пікет Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ. У розны час у ім удзельнічалі ад 20 да 30 чалавек. Яны раздалі аршанцам адмысловы зварот КХП-БНФ з нагоды гадавіны аварыі на ЧАЭС.

У Наваполацку Дзень чарнобыльскай трагедыі прайшоў па іншай схеме. Увечары на вуліцы Маладзёжнай 7 сябраў партыі БНФ і "Маладога фронту" пры юрыдычнай падтрымцы наваполацкіх прадстаўнікоў грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтар "Вясна" за гадзіну сабралі 129 подпісаў пад заявай у гарвыканкам. У дакуменце патрабавалася галоснасць ў выдаткоўванні сродкаў мясцовага экалагічнага фонду, інфармаваць гараджан пра ўзровень радыёнуклідаў у прадуктах, што прадаюцца ў Наваполацку ды праводзіць грамадскую экспертызу новых прамысловых праектаў. Удзельнікі акцыі распаўсюджвалі ўлёткі аб мінскім "Чарнобыльскім шляху" ды каляндарыкі Беларускай рэдакцыі радыё "Свабоды".

## Злачыннасць

**За два майскія дні ў рэспубліцы зарэгістраваны 515 злачынстваў, палова з якіх раскрыта па "гарачых" слядах.**

Як паведамілі БЕЛТА ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС, пераважная большасць правапарушэнняў адносіцца да кампетэнцыі крымінальнага вышуку. Адзначаны 279 крадзяжоў, больш за трэць з якіх кватэрныя. У міліцэйскія зводкі трапілі таксама 3 забойствы, 32 разбоі, 11 рабаванняў. Супрацоўнікі праваахоўных органаў выявілі таксама 41 злачынства ў сферы эканомікі і спынілі 14 спроб збыту фальшывых грашовых купюр.

За студзень-красавік у Беларусі зарэгістравана 434 ВІЧ-інфіцыраваных. Пры гэтым за ўвесь 2001 год у Беларусі было выяўлена 578 выпадкаў заражэння ВІЧ-інфекцыяй.

Усяго, паводле інфармацыі галоўнага доктара РЦП СНІД Лілії Мялешкі, колькасць заражоных вірусам імунадэфіцыта ў Беларусі сёння складае 4291 чалавек. Сярод рэгіёнаў Беларусі абсалютным лідэрам па колькасці ВІЧ-інфіцыраваных з'яўляецца Гомельская вобласць, дзе зарэгістравана 2 тыс. 820 выпадкаў заражэння ВІЧ (у Мінску – 575 выпадкаў). Каля 80% носбітаў вірусу імунадэфіцыта – маладыя беларусы 15-29 гадоў.

## Экалагічны дэсант на Верхнядзвіншчыну

Дэсант здзейснены 22 красавіка: група з 21 чалавека з СШ №12 г.Наваполацка гэты дзень займалася карыснай справай на Верхнядзвіншчыне. Вучні, а гэта старэйшыя класы, зрабілі экскурсію па дэндрарыі і гатомніку, працавалі на пасадцы лесу, потым знаёміліся з вопытам працы па экалагічнаму выхаванню ў дзіцячым садку №2 г.Верхнядзвінска. Затым была сустрэча ў Цэнтры"Рубон", дзе для вучняў была падрыхтавана прыемная нечаканасць: усе яны атрымалі "спецвопратку"( джынсы і кашулі з грузу, выдзеленага праграмай гуманітарнай дапамогі "Каунтэрпарт") для працы ў нашым раёне ў чэрвені.

Праграма іх двухтыднёвай экалагічнай стажыроўкі зараз сумесна распрацоўваецца кіраўніцтвам лягсаса і школы. Тым больш, што апошняя бярэ на сябе выдаткі, звязаныя са знаходжаннем вучняў у нашым горадзе.

*В.Кудляцкая*

Працяг тэмы

# Палавое выхаванне – не разбэшчанасць, а фактар цывілізаванага свету

**У апошні час шмат ідзе спрэчак аб маральна-палавым выхаванні. У паняцці старэйшага пакалення яно ўспрымаецца ў вобразе поўнай разбэшчанасці моладзі. Але пры гэтым адным з галоўных сродкаў разбэшчанасці служыць сучаснае тэлебачанне, якое насычана амаральнымі відовішчамі. І не заўсёды псіхічна нясталы падлетак можа ўспрыняць правільна ўбачанае ці пачутае без дапамогі іншых. У першую чаргу гэта дапамога павінна зыходзіць з боку бацькоў. Але, на жаль, за паўсядзённымі праблемамі ім не заўсёды хапае часу паразмаўляць са сваім дзіцяці, ці тыя ж бацькі проста не хочуць заўважаць, што іх дзеці выраслі. У гэтым выпадку за недахопам правільнай інфармацыі і лішкам цікавасці падлеткі і здзяйсняюць памылку за памылкай.**

**З мэтай забяспечыць падлетка неабходнымі ведамі, якія засцерагалі б ад згубных звычак, у нас у горадзе і дзейнічае гурток "Медыцынскія веды для падлеткаў" пад кіраўніцтвам Гарановіч Марыны Іванаўны.**



Чэпулан Андрэй *Вучань 11"В" класа СШ№1, член гуртка "Медыцынскія веды для падлеткаў"*

Тэмы, якія разглядаюцца на занятках гуртка, вельмі разнастайныя і актуальныя: развіццё будучага дзіцяці, праблема бяздзетнасці і штучнага апладатварэння, наступстваў ранняга палавога жыцця і венерычных захворванняў, недапушчальнасць аборта і палавых перабольшванняў, пагубны ўплыў алкаголя, курэння, наркотыкаў. Акрамя гэтага, у нас праходзяць дыспуты ў выглядзе судоў, дзе мы вучымся адстойваць сваю кропку гледжання, цывілізавана спрачацца са сваімі аднагодкамі. За гэты год у нас прайшлі суды над абортам, над венерычнымі захворваннямі, над СНІДам, палавымі перабольшваннямі і г.д.

Атрыманыя веды заклікаюць нас глыбей задумацца над сваім ладам жыцця, а можа і карэнным чынам яго змяніць, вучаць знайсці ў сабе сілы не пайсці на повадзе сваіх дурных звычак.

Падлеткавая цяжарнасць, аборты, ранняе палавое жыццё, усемагчымыя хваробы, СНІД – вось вынік пасіўных адносін дарослых да маральнага здароўя моладзі, вынік адсутнасці правільнага палавога выхавання. І калі б замест прапаганды бяспечнага секса прапагандавалі здаровы лад жыцця і маральнасць, як гэта робіць Марына Іванаўна, то мы б зараз не стаялі на краю духоўнай бездані.

Такая думка склалася не толькі ў мяне, але і ў маіх аднагодкаў, якія наведваюць гэтыя заняткі.




**Навумаў Эдуард, 11"Г"кл. СШ№3:**

-- Мне многія задаюць пытанне: "Навошта ты ходзіш у гурток?" Адказ вельмі просты. Гурток дае магчымасць атрымаць веды па пытаннях, якія цікавяць. Аб гэтым нельга даведацца ад староннiх людзей, з фільмаў і сумнёўнай літаратуры. Гэты мінімум ведаў дапамагае захаваць не толькі здароўе, але і жыццё. Гурток рэзка перамяніў маё стаўленне да сексуальных адносін, да шлюбу. Зараз многія маладыя людзі вядуць бязладнае палавое жыццё. Мяняючы партнёраў, чалавек губляе частачку сябе. "Каханне на адну ноч" – гэта непавага да сябе. Я выступаю на баку тых, для каго непрымальны сексуальныя адносіны без кахання.

**Рудзько Алег, 11"Б" кл. СШ№1:**

-- Пасля заняткаў у гэтым гуртку я пачаў цалкам па-іншаму адносіцца да дзяўчат, жанчын, бо яны ў маім разуменні набылі вобраз чагосьці вышэйшага, бо яны працягваюць чалавечы род. Бо жанчына – гэта вышэйшая істота, якая дорыць радасць усяму наваколлю, дае жыццё дзіцяці. У маім лексіконе зніклі словы, якія абражаюць жанчын.

**Пракапенка Люба, 11"Д" кл. СШ№3:**

- Гурток "Медыцынскія веды для падлеткаў" дапамагае зразумець, якую шкоду здароўю наносяць курэнне, алкаголь, ранняе палавое жыццё. Напрыклад, мая сяброўка пасля некалькіх заняткаў у гуртке кінула курыць. Яна сказала, што жадае мець здаровых дзяцей. Марына Іванаўна выконвае абавязкі нашых бацькоў, адбівае жаданне рабіць усялякія глупствы.

**Каланда Дзіма, 3 курс, прафліцэй:**

-- Калі ў нашай краіне пачалася так званая перабудова, то ўсё, што было пад забаронай, выліласся навонку. Колькі рознага бруду сталі паказваць па тэлебачанню, колькі стала выпускацца порна і эратычнай літаратуры! Маладое пакаленне не змагло пабачыць у гэтым страшную пагрозу, пачалася сексуальная рэвалюцыя, якая і прывяла да эпідэміі СНІДу, венерычных захворванняў, павелічэння колькасці абортаў. І калі б тады моладзь не пакінулі сам на сам са сваімі праблемамі, калі б дзяржава насуперак гэтай разбэшчанасці размаўляла з моладзю аб наступствах амаральных паводзін, пра грэх аборта, аб устрыманні як адзінага спосабу здаровых паводзін, то гэта б не прывяло да дэмаграфічнага і духоўнага крызісу ў нашай краіне.

**Казлоўскі Саша, 9"В" кл. СШ№2:**

-- Я нарадзіўся ў Латвіі, у Рызе. Шмат ездзіў па Еўропе, быў у Германіі, Бельгіі, Францыі, некаторы час жыў у Польшы. Ва ўсіх гэтых краінах маральна-палавое выхаванне ёсць у школьнай праграме. І ва ўсіх гэтых краінах узровень абортаў у 6-7 разоў ніжэй, чым у Беларусі. А калі весці размову аб такіх краінах як Швейцарыя, Данія, дзе палавое выхаванне выкладаюць з трыццатых гадоў, узровень абортаў самы нізкі ў свеце. А Беларусь займае "ганаровае" III месца па колькасці абортаў у год пасля Румыніі і Расіі.

**Стоцік Коля, 3 курс, прафліцэй:**

-- Я ніколі раней не задумваўся над тым, што ж такое аборт. Калі паглядзеў відэафільм "Нямы крык", пабываў на занятку "Недапушчальнасць аборта", разам з сябрамі зразумеў, які гэта страшэнны грэх. Адказнасць за гэты грэх ляжа на плечы жанчыны і на плечы мужчыны. Гэта адаб'ецца на здароўі будучых дзяцей. Ніколі раней ні бацькі, ні настаўнікі з намі на гэту тэму не размаўлялі. І я ўпэўнены, што, дзякуючы гуртку, вельмі многія маладыя людзі не пойдуць на гэты грэх.

**Юргель Юля, 11"В"кл. СШ№2:**

-- Чалавек, які наведвае гурток, не зможа аступіцца і здзейсніць крок у бок бездані. Ён абыйдзе гвалт, п'янкі, курэнне, бо задумаецца аб сваім будучым і будучым сваіх дзяцей.

Безумоўна, якасць працы медыцынскага гуртка адчуваецца адразу. Вось якіх поспехаў можна дабіцца ў рабоце з моладдзю. Застаецца спадзявацца, што і ў будучым усе гэтыя дзяўчаты і юнакі будуць ісці па жыцці таксама ўпэўнена і беспамылкова.

## Трагічная смерць

Трагічна абарвалася жыццё вядомага беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука. Ён загінуў у Маскве ў аўтакатастрофе вечарам 27 красавіка. Трагедыя здарылася ў 21.30 на Краснапрэсненскай набярэжнай. Смерць настала імгненна.

У расійскую сталіцу Міхаіл Пташук прыбыў на цырымонію ўручэння нацыянальнай кінематаграфічнай прэміі "Ніка". Фільм рэжысёра "У жніўні 44-га", які стаў эпахальным, атрымаў гэту ўзнагароду адразу па дзвюх намінацыях -- "Адкрыццё года" і "Лепшы гукарэжысёр".

*БЕЛТА*

## Здабытчыкі металаў

**Здабытчыкі каштоўных металаў разбіваюць каналізацыйныя трубы ў жылых дамах Віцебска**

Аб гэтым паведаміў «Інтэрфаксу» начальнік ЖЭУ-16 Анатоль Кулагін.

Па яго словах, з-за чуткі аб тым, што прадпрыемства «Маналіт» спусціла ў каналізацыю вялікую колькасць няякасных кандэнсатараў, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы, зламыснікі сталі шукаць іх у каналізацыйных сістэмах не толькі ў раёне прадпрыемства, але і ў падвалах суседніх дамоў. Па яго словах, на працягу месяца «залаташукальнікамі» разбіта каля 40 метраў труб у чатырох дамах. Для іх замены патрабуецца прыкладна 1 млн. рублёў.

Супрацоўнікамі міліцыі затрыманы трое навучэнцаў школ, аднак начальнік ЖЭУ апасаецца, што «эпідэмія залаташукальніцтва» можа захліснуць увесь мікрараён.

Ён успомніў леташні выпадак, калі з-за чуткі аб тым, што прадпрыемства «Маналіт» выкінула на звалку бракаваныя вырабы, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы, былі перакапаны бліжэйшыя звалкі і нават зямля вакол прадпрыемства.

## "РАДА" запрашае на семінар

Беларускі саюз маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў "РАДА" ў рамках праекта "Стратэгія развіцця маладзёжных арганізацый Беларусі" праводзіць 8 чэрвеня 2002 года семінар "Распрацоўка прапаноў у заканадаўства Рэспублікі Беларусь, што рэгулюе дзейнасць маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў". У семінары прымуць удзел прадстаўнікі дэпартамента па справах моладзі Міністэрства адукацыі Беларусі.

Усім, хто хоча прыняць удзел у семінары, неабходна запоўніць заяву і даслаць яе ў офіс БСДМГА "РАДА" да 15 мая. Асобам, што будуць адабраныя да ўдзелу ў семінары, да 24 мая будуць высланы пісьмовыя запрашэнні.

Арганізатары бяруць на сябе выдаткі па харчаванню ўдзельнікаў семінара, а таксама кампенсуюць кошт праезду для іншагародніх.

Дадатковая інфармацыя і форма заявы:

**220030, Мінск, вул. К. Маркса, 40, п. 47, тэл./факс (017) 222-30-05, e-mail: rada@user.unibel.by.**

*BARCNEWS*

## "КІМ" забаставаў

На ААТ "КІМ" 30 красавіка забаставалі два вязальныя цэхі. Прычына -- нявыплата зарплаты на працягу двух апошніх месяцаў і самагубства адной з вязальшчыц. Як паведамляе "БДГ", 38-гадовая работніца вязальнага цэха, маці дваіх дзяцей, скончыла жыццё самагубствам з-за таго, што не было чым карміць сям'ю. Пазнаўшы пра гэта, з раніцы два вязальныя цэхі аб'явілі забастоўку. Патрабавалі выдачы зарплаты за два месяцы. Цэхі "прасталі" пяць гадзін. Да канца працоўнага дня вязальшчыцам выдалі зарплату за сакавік.

# Гармонік іграў, лілася песня

Любяць глыбачане святкаваць. У гэтым ім заўсёды дапамагае мясцовы аддзел культуры. 9 мая, апоўдні, гледачоў сабрала вясёлае свята "Іграй, гармонік".



Ужо ў панядзелак пачаліся ў Глыбокім святочныя мерапрыемствы. дэпутат парламента Беларусі Васіль Хрол запрасіў на сустрэчу ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, тых людзей, чый гераізм зрабіў магчымым гэта цудоўнае веснавое свята – Дзень перамогі. Напярэдадні 9 Мая адбылося ўрачыстае паседжанне, прысвечанае гэтаму дню. Былі ўскладзены кветкі ва ўрочышчы Барок і ў парку Перамогі. А для ўсіх жыхароў і гасцей горада калектывы мастацкай самадзейнасці раёна падрыхтавалі свята народнай музыкі, спеваў. Больш за дзве гадзіны весялілі народ, спяваючы і граючы на народных інструментах артысты з Глыбокага, Дзеркаўшчыны, Верхняга, Азерцаў, Удзела, іншых вёсак нашага раёна.

Кожны калектыў імкнуўся паказаць свае таленты, выконваў арыгінальную праграму. І хоць сярод





вяскоўцаў было мала прафесійных артыстаў, яны бралі публіку сваімі шчырымі таленавітымі выступленнямі і жывым гучаннем спрадвечных народных інструментаў – гармоніка ды балалайкі. Гледачам прапаноўвалі паспрабаваць сябе ў ролі спевака, а прыпеўкі, якія прагучалі з іх вуснаў – гэта сплаў народнага гумару і беларускіх песенных традыцый. Прыемна адзначыць, што гэта мастацтва не губляе папулярнасці і ў маладога пакалення, што даказаў конкурс прыпевак, які прайшоў з удзелам гледачоў рознага ўзросту.





Многія глыбачане скарысталі гэты святочны дзень для працы на зямлі. Тыя, хто патрапіў на свята яшчэ раз пераканаліся, што сапраўднае свята і веселле можа атрымацца тады, калі душа спявае, а ногі імкнуцца ў пляс.

*Ю. Калбасіч(фота аўтара)*

## Ля царкоўнай брамы

Ён сядзіць тут у кожнае свята і кожную нядзелю. Але, калі часам, нават у нядзелю ці нават гадавое свята яго там няма. Альбо хварэе, гады мае паважныя, альбо пакутуе іншай хваробай, што не дазваляе заняць свой пост. Адметнасць яго яшчэ ў тым, што ён ніколі нічога не просіць. Дакладней просіць, але толькі поглядам сваіх заўсёды макраватых, таксама немаведама з якой прычыны, вачэй.

Сёння ён ля брамы. А якраз насупраць яе - нейкі дзесятак крокаў -- на плошчы прыпынак для прыватных аўтамабіляў.

Там спыняецца «Аўдзі», з-за руля аўтамабіля выходзіць кабета, не толькі знешні выгляд якой, але нават кожны крок гаворыць аб тым, што ўсё прыдбанае ёю, прыдбана не дзякуючы ўдачы законнага мужа альбо... Не, усё прыдбана менавіта ёю, і верагодней за ўсё былы муж сёння ў заслужанай на яе погляд, адстаўцы.

Кабета зачыняе аўтамабіль, накідвае, бачна, што гэта ёй нязвычна, на шыкоўную прычоску хусціну (навучылі людзі)і робіць гэтыя дзесятак крокаў да брамы. Яна спыняецца перад ёй, хрысціцца (навучылі, падказалі - гэтага не схаваць і за ўпэўненасцю рухаў) і тут жа заўважае жабрака. Погляд таго скіраваны на кабету. Слязлівы погляд.

Жанчына на хвілю губляецца. Але мінулыя гады жорсткай барацьбы за свой дабрабыт прывучылі хутка прымаць рашэнні. Яна дастае з сумачкі партманет. Сённяшнія бізнесменістыя жанчыны носяць іх вялікіх памераў. Надзяляе жабрака сваёй ахвярай і крочыць у храм.

Вяртаецца яна адсюль даволі хутка. Рытуал, пра які расказвалі, падказвалі, навучалі, выкананы. Спыняецца ля брамы, паварочваецца на крыж - зноў жа хрысціцца. І тут зноў сустракае погляд жабрака.

Зноў нядоўгі збой у адрэпеціраваным рытуале. А сапраўды: другі раз даваць ці не даваць? Сам не ведаю. Даюць, калі нешта ёсць і ёсць такая патрэба - даць. А вось перыядычнасць, дыскрэтнасць, так бы мовіць...

Кабета рэзка адварочваецца ад жабрака і ўпэўнена крочыць да аўтамабіля. Рашэнне прынята. І канчаткова. І ніякіх сумненняў. Вялікае ўменне прымаць рэзкія і канчатковыя рашэнні.

*А.Касцень*

## Ад малой газеты — да сур'ёзнага выдання

**У Магілёве з 9 па 11 траўня праходзіла навуковая канферэнцыя для журналістаў і выдаўцоў малых мясцовых газет усходняга рэгёна Беларусі.**

Канферэнцыю праводзілі магілёўская філія рэспубліканскага аб'яднання "Эдукатар" і Таварыства журналістаў мясцовай прэсы "Слова". Фундатарам навучання для выдаўцоў і журналістаў малых газет стаў польскі фонд "Прэсавы цэнтар для краін Усходняй Еўропы".

У Магілёве на тры дні сабралася большасць рэдактараў незарэгістраваных недзяржаўных газет, якія выдаюцца накладам не больш за 299 асобнікаў. У іх ліку - выдаўцы і журналісты асіповіцкай "Панарамы", газеты "Рабочы Бабруйска", хрысціянскіх магілёўскіх выданняў "Жывая вера" і "Твой час" ды іншыя.

Тэма навуковай канферэнцыі гучала як "Ад малой газеты да сур'ёзнай назвы". Яе удзельнікі з дапамогай журналістаў недзяржаўных медыяў Алеся Сердзюкова, Алега Стральцова, Марыны Ірхо, Алеся Дайнэкі ды іншых вывучалі, як прайсці складаны шлях ад невялікай газеткі да сур'ёзнага і аўтарытэтнага выдання.

Усе пытанні - рэгістрацыі, заканадаўства, стварэння канцэпцый, а таксама і праца журналістаў мясцовых медыяў разам з практыкай напісання артыкулаў у рэгіянальныя выданні -- абмяркоўваліся на магілёўскай канферэнцыі. Канферэнцыя завяршылася дыскусіяй журналістаў і выдаўцоў недзяржаўных медыяў на тэму "Мясцовая прэса, грамадства і ўлада".

*Ганна Юрчанкова*

Беларускаму атлету Вадзіму Сігневічу не было роўных на праведзеным у Казані чэмпіянаце свету па гіравому спорту. Выступаючы ў вагавой катэгорыі да 90 кілаграмаў, ён за дзесяць хвілін зрабіў 87 пад'ёмаў дзвюх 32-кілаграмовых гір. У іншых вагавых наменацыях таксама паспяхова выступілі нашы Андрэй Лагунскі і Алег Сямёнаў, якія занялі адпаведна пятае і шостае месцы.

*БЕЛТА*




## Лынтупы - куток паўлінаў

Мы прызвычаіліся, што паўліны – гэта прыкмета нейкіх экзатычных краін, што яны недзе там, далёка ад нашай Беларусі. Але, аказваецца, што ўсё значна прасцей. Ёсць на самым захадзе нашага азёрнага краю гарадскі пасёлак Лынтупы, які знаходзіцца ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад Літвы. І ў ваколіцах гэтага пасёлка ў многіх вёсках сяляне гадуюць паўлінаў. Праўда, не дзеля прыгажосці, а з вельмі празаічнымі мэтамі – для спажывання і іншых гаспадарчых патрэб. Прычым, гэта завядзёнка не сённяшняга дня, а губляецца ў глыбіні стагоддзяў. Па крайняй меры на ўласныя вочы бачыў фотаздымак часоў першай сусветнай вайны. На тым фотаздымку пазіруюць кайзераўскія салдаты, якія ў гэты час акупіравалі Лынтупы. Але ўся справа ў тым, што пазіруюць на фоне паўлінаў. Як расказвалі мясцовыя жыхары, ужо ў тыя часы гэты занятак быў распаўсюджаны сярод мясцовых жыхароў.

Адкуль жа ўзялася досыць экзатычная птушка ў гэтым кутку Беларусі? Можна толькі выказаць адно меркаванне. У Лынтупах знаходзіўся вялікі і вельмі прыгожы палац аднаго з беларускіх магнатаў. Яны спакон веку мелі Лынтупы ў сваім уладанні. Жылі найчасцей у Вільні ці Варшаве. Але рэгулярна наведвалі свае маёнткі. Дзеля гэтага і ўзведзены палац. Вось, магчыма, нехта з гэтых магнатаў і завёз у глыбінку, Лынтупы, гэтых птушак. Канечне, для забавы. Ну а мясцовыя сяляне скемілі, што яе можна выкарыстаць у чыста гаспадарчых мэтах.

Увогуле Лынтупы – цікавы куток нашага Паазер'я. Вось толькі апошнія часы для яго вельмі неспрыяльныя. Справа ў тым, што блізкае памежжа з Літвой прыносіць свае нязручнасці.

*Алесь Касцень*

Найбольш прыдатнымі азёрамі, якія насяляе стынка, з'яўляюцца глыбакаводныя Доўгае і Гінькава ў Глыбоцкім раёне, а таксама Паўднёвы Волас на Браслаўшчыне, Балдук непадалёк ад Лынтуп, а таксама Сара, Рудакова, Жэнна, Светлае ў Віцебскай вобласці.

Колькасць стынкі ў азёрах Беларусі як рыбы з кароткім жыццёвым цыклам падвержана рэзкім хістанням. У агульным улове стынка складае долі працэнта.

У вадаёмах, дзе запасы стынкі больш ці менш значныя, яе ловяць закіднымі неводамі і сеткамі. Аматарамрыбаловам стынка зрэдку трапляецца на кручковыя прылады.

Стынка мае верацянопадобнае цела, даўжынёй 6-10 см., радзей да 15 см. Рот адносна вялікі, усаджаны загнутымі назад зубамі, якія маюцца і на язычку. Бакавая лінія няпоўная, якая ўключае 4 - 16 штук лускі.

Большую частку года гэта рыба з буравата-зялёнай спіной, срэбнай паласой па баках і бескаляровымі плыўнікамі касякамі трымаецца ў непасрэднай блізкасці ад берагоў на значных глыбінях. Харчуецца яна ў асноўным планктонам, зрэдку доннымі беспазваночнымі і маляўкамі рыб, найбольш інтэнсіўна -- улетку і ўвосень. Зімой стынка збіраецца перад вусцямі рэк і трымаецца тут да пачатку нераставай міграцыі. У жылой прэснаводнай формы стынкі месцы нерасту і нагулу, як правіла, знаходзяцца побач. Зрэдку нераст адбываецца ў перадвусцевых прасторах, дзе ўпадаюць у азёры рэкі.

Нераст пачынаецца, калі тэмпература вады дасягае 4° С, і найбольш інтэнсіўны пры 6 -- 9°С, доўжыцца звычайна ўсяго некалькі дзён. Самкі вымётваюць ікру адразу і хутка пакідаюць месца нерасту, самцы трымаюцца на іх даўжэй, удзельнічаючы ў нерасце з многімі самкамі. Нерастуе стынка пераважна ўначы, з шумам і плёскатам. У гэты перыяд у яе, асабліва ў самцоў, развіваецца адмысловае шлюбнае ўбранне -- верхняя частка галавы і жаберныя крылы становяцца сіня-чорнымі, ніжняя сківіца завостраецца, галава, спінка і бакі цела пакрываюцца бугрынкамі.

Ікра вымётваецца на камяні, гальку, водную раслiннасць, падмытыя карэнні прыбярэжных раслін, на пагружаныя ў ваду галінкі хмызнякоў. Значна радзей ікра сустракаецца на пяску і ніколі на глеістых грунтах. Глыбіня месца нерасту невялікая -- ад 15 -- 20 см. да некалькіх метраў.

Ікрынка прыліпае да камянёў і раслін і трывала трымаецца, калыхаючыся ў вадзе. Аднак шмат ікрынак стынкі гіне ад абсыхання пры зменах узроўню вады і знішчэння джгіром ці акунём.

Маляўкі выклёўваюцца праз 15 -- 20 сутак. Упачатку яны харчуюцца планктонам, затым пераходзяць на харчаванне доннымі беспазваночнымі і моладдзю рыб, паядаючы ў тым ліку і ўласную моладзь. Стынка хутка дасягае палавой спеласці. Асноўная маса стынкі становіцца полаваспелай у гадавым узросце пры даўжыні цела ад 5 см і вышэй. Хуткасць росту і саспявання залежыць ад спалучэння кармавых і кліматычных умоў жыцця.

Вяленая стынка (сняток) карыстаецца папулярнасцю ў аматараў піва. Яе зрэдку можна набыць і ў нашых крамах, яна прадаецца ў невялікіх пакецiках, але гэта прадукт не нашых азёр, а расійскіх.

*У. Акуневіч*

### Жывёльны свет нашага краю

**Стынка (па-руску снеток) -- рыба сямейства корушкавых. Распаўсюджана ў азёрах басейнаў Балтыйскага і Белага мораў. У азёрах паўночна-заходняй часткі тэрыторыі еўрапейскай часткі Расіі і паўночнай часткі Заходняй Еўропы яна мае вялікае прамысловае значэнне. У Беларусі стынка насяляе частку азёр басейна Заходняй Дзвіны, дзе мае некаторае прамысловае значэнне. Стынка прадаецца ў крамах у вяленым выглядзе.**

# Стынка



### Паданні нашага краю

**Кожны народ мае прыгожыя паданні з мінулага свайго краю. Не выключэнне і Беларусь. Матэрыял, які прапануецца ўвазе чытачоў, не проста паданне. Гэта нешта большае. Калі б не так, то, напэўна, не было б у нашай мясцовасці такога свята як Дзяды Стаўроўскія, якое, яшчэ ў пачатку XIX ст. шырока адзначалася ў нашых ваколіцах.**

# Стаўры і Гаўры

**"Першыя людзі на зямлі былі волаты. Іх называлі стаўрамі і гаўрамі, стаўры -- мужчыны, гаўры -- дзеўкі. Яны былі дужа вялікімі і дужа доўга жылі на свеце. Елі яны толькі сырое. Тыя з іх, каторыя аскаромiліся варaным з кожным пакаленнем меншалі і карацей жылі на свеце. Калі волаты паміралі, то іх клалі на зямлю і насыпалі на іх горы, на памятку. Гэткія горы-магілы і цяпер ёсць. Называюць іх людзі валатоўкамі..."**

Так пачынаў свой славуты "Беларускі радавод" адзін з фундаменталістаў беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя наш славуты зямляк Вацлаў Ластоўскі. Якой бы гэта ні здавалася прыгожай казкай, беларускім міфам, але тое ёсць толькі на першы погляд.

Разгарнём падрабязную карту Віцебшчыны. Каля Оршы мы знойдзем даволі вялікую вёску Стаўры, а на Браслаўшчыне, недалёка ад возера Обаль -- вёску Гаўраны, у тым жа раёне, на беразе Богінскага возера -- вёску Стаўрава.

Чым больш пранікаешся гэтай тэмай, пачынаеш разумець, што гэта -- не проста казка, міф, а -- цэлая беларуская філасофія. Філасофія поўначы Беларусі, філасофія Паазер'я.

Гадоў сем таму назад краязнаўчыя вышукі звялі мяне з адной глыбоцкай шляхцянкай, спадарыняй Ганнай. Пасля працяглай размовы аб мінулым нашага краю, яна вырашыла падараваць мне адну вельмі старую кнігу. Сказала, што такіх старых кніг некалі на гарышчы Глыбоцкага касцёла было вельмі шмат. Гадоў трыццаць таму назад ксёндз распарадзіўся ачысціць гарышча храма, а кнігі раздаць парафіянам на распалку печаў. Аднак гэтую, пакрытую пацінай даўніны, кнігу, якую выдалі 155 гадоў таму, яна не спаліла, а захоўвала ў куфры. Разумею цяпер, як знаходзіў сюжэты для сваіх прыгодніцкіх раманаў незабыўны наш Уладзімір Караткевіч.

**«Opisanie powiatu Borysowskiego»**, чытаю загаловак кнігі на польскай мове, якая выдадзена ў Вільні ў 1847 годзе Еўстафіем Тышкевічам. Добрую палову кнігі складаюць тэксты, напісаныя па-беларуску лацінскімі літарамі ў польскай транскрыпцыі. Праўда, гэта датычыць не аўтарскага тэксту, а толькі народнага фальклору, сабранага і запісанага ім у Барысаўскім павеце Мінскай губерніі, да якога, на той час, належаў наш сусед -- горад Докшыцы.




Аўтар кнігі згадвае, што на пачатку XIX ст. у ваколіцах Докшыцаў "над Бярэзінай і да межаў Белай Русі (Bialej-Rusi), яшчэ перад зялёнымі святкамі адзначалася ўрачыстасць Дзяды Стаўроўскія". Урачыстасць гэта "была адметнасцю Белай Русі".

Пры звычайнай у падобным святкаванні вячэры гаспадар, забраўшы ў сподак частку ежы, згінаецца пад стол і тройчы гукае: **"Стаўры, Гаўры, гам. Прыхадзіце к нам!"** І гэтым Дзяды Стаўроўскія адрозніваюцца ад іншых Дзядоў.

Вытокі гэтае ўрачыстасці згубіліся ў глыбіні стагоддзяў і паданні не захаваліся. У XVIII ст. на Белай Русі П. Баршчэўскі натрапіў на наступную аповесць. "Над рэчкай Дрысай (*рака ў Верхнядзвінскім раёне,*-- **У.С.**) знаходзіўся двор Краснаполь, атачаны з усіх бакоў лесам. Там ёсць месца, дзе, як апавядаецца, жыў некалі, яшчэ за часам паганскім, князь Бой, слынны на ўсёй Белай Русі, як вялікі волат, і правіў цэлым народам, які жыў у тых дзікіх старонках на берагах Дрысы.

Звычайнай яго забавай было з лукам і стрэламі звездаць бары, забіць лася і іншага дзікага звера, для чаго меў пару верных выжлаў, з тых адзін звацца Стаўры, другі Гаўры. Былі яны надзвычай дужымі і разумнымі. Найстрашнейшы мядзведзь у сутычцы з імі не мог утрымацца, умомант быў раздзёрты нібы заяц злоўлены ганчаком. Калі князь Бой на паляванні аддаляўся далёка ад сваіх сяброў і быў атачаны з усіх бакоў разбойнікамі, забіваў іх альбо паваргаў у бегства, пушчаў на іх сваіх моцных выжлаў, неаднойчы, калі заблукаўся ў далёкіх лясах, выжлы ягоныя ішлі наперадзе, выправодзілі на дарогу і да самага дому".

Аднойчы Бой пастанавіў упарадкаваць межы сваіх уладанняў. Ён загадаў Стаўры бегчы на ўсход сонца, Гаўры -- на заход сонца. І колькі вёрстаў прабягуць выжлы ад узыходу і да заходу сонца -- такімі і быць межам Белай Русі.

Шмат разоў Стаўры і Гаўры ўратоўвалі свайго пана ад небяспекі і непрыемнасцяў і былі для яго самай лепшай забавай. Распавёў пра тое падданым сваім, абы ім аддавалі почасць, як найважнейшым пры ім асобам, а калі ад старасці адзін за другім скончылі жыццё свае, за заслугі былі прызначаны дні ўрачыстыя. Народ збіраўся на тым месцы, дзе былі закапаныя іх косці, прыносіў туды напоі і ежу, почасць трывала да позняй ночы, рэштні ежы і косці кідалі на вогнішча. Гукалі імёны двух выжлаў: "Стаўры, Гаўры, гам. Прыхадзіце к нам!" Выклікалі іх цені з іншага свету.

І стала так святкавацца ўрачыстасць гэтая на кінутую волю князя па ўсёй Белай Русі, і любоў да выжлаў передалася на стагоддзі народу тутэйшаму, і любоў гэтая з'яднала народ.

*Уладзімір Скрабатун*

Апофеоз "крутой" тусовки
Финансовый воротила
Домашнее пиво
Колючая жена
Отросток у колоса
Морское судно
Сражение
Гора в Армении
Наркотик из конопли
Буква греч. алфав.
На дворе ...
Казачий чин
Особенность поведения
Вьючное животное
Маленький слон
Клок торчащих волос
Хвойное дерево
В офисе мини-...
Женское имя
Раструб у перчатки
"МММ"
Сорт сыра
Дореволюцион. курсант
Соединение с кислородом
Режиссер "Титаника"
Няня Пушкина
Отклонение
Ткань для вышивания
Глаз
Способ печати
Месяц года
От кипящей воды
Хвалебная песня
Линия родства
Один из пары
Студия Игоря Крутого
Фирма спорттоваров
Доказательство вины
Жилище из снега
Ничто
Нота
Корка на снегу
Азиатская повозка
Театр. краски
Шкаф для вин
Цыганка
Ватага
Кусок коры липы
..., буки, веди
Крестная мать
Лодка Хейердала

Пособие по английскому языку для новых русских: Неопределенный артикль "а" переводится на русский как "типа", а определенный артикль "the" – как "конкретно".

www.anekdot.ru

www.thedaily.ru СКАНВОРДЫ

## ✶ Гараскоп ✶ 16.05 – 22.05

**Авен (21.3 – 20.4)** Памятайце пра дом. Не пра "Наш дом – планета Зямля", а пра свой дом, дзе шлёпаюць саплівыя дзеці і бегаюць цёткі ў бігудзі. Менавіта адтуль будзе зыходзіць цяпло і дабрабыт, у той час як увесь свет будзе супраць вас, падазраючы ў вас недацёпу і гультая. Спрыяльныя дні – 18,21; крытычны – 20

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Рабіце тое, што вам гавораць старэйшыя. Увесь поспех вашых невялікіх укладанняў залежыць ад недарэчных прапаноў.Прыгажосць і сіла вашых мышц будзе прываблiваць погляды заклапочаных асобаў любога полу. На гэтай хвалі вы пратрымаецеся больш месяца. Спрыяльныя дні – 17, 22; крытычны – 20.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** Ваша раздвоенасць не падабаецца начальству. Калі вы аматар плётак, то гэтая асаблівасць будзе вам каштаваць галавы. Дарэчы, ёсць чаму і парадвацца: многія палічаць вас таленавітым і зробяць адразу некалькі прывабных прапаноў. Не зявайце, арыентуйцеся па сітуацыі. Лепш за ўсё клюнуць на таго, хто менш за ўсіх прапаноўвае залатыя горы. Спрыяльныя дні – 17, 22; крытычны – 20.

**Рак (22.6 – 22.7)** У вас зорная гарачая пара. Жніце любоўны поспех. Але не вельмі часта мяняйце месцы начнога прабывання – да восені рызыкуеце зжынаць венерычны ўраджай. Службовыя справы вашы падскочаць у гару, а ў канторы падхалімы стануць "выкаць" і ў ножкі кланяцца. Спрыяльныя дні – 17, 21; крытычны – 19.

**Леў (23.7 -- 23.8)** Целам пракладвайце дарогу. Нават, калі вы ганаровы пенсіянер, пастарайцеся какецтвам і ўжымкамі заваяваць таго, хто спатрэбіцца вам у далейшым. Калі на вашу бедную галоўку зваліцца крыху грошай, адкладзіце іх на адпачынак – лета прадбачыцца незабыўнае. Спрыяльныя дні – 17, 21; крытычны – 20.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Пасябруйце з унутранымі органамі, ні ў якім разе не сварыцеся з МУС, КДБ і інш. У вас прачнецца крымінальны талент. І не гледзячы на поспех "цёмных" спраў, органы возьмуць вас на прыцэл. Дарэчы, вы можаце займець славу і нейкім добрым, прыгожым учынкам.. Спрыяльныя дні – 16, 21; крытычны – 19.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Не парыце гарачку, за кожным вашым крокам назірае ўсёбачачае вока. Час зарабляць дывідэнты для нябеснага жыцця. Да таго ж у месцах культавых зборышчаў вы можаце сустрэць свой лёс і матэрыяльна забяспечаную асобу. Спрыяльныя дні – 17, 22; крытычны – 20.

**Скарпіён (24.10 – 22.11)** На палітычным Алімпе пацясніліся, каб саступіць вам месца. Адмыйце стары камуністычных гадоў касцюм – і наперад, на трыбуны. Але не старайцеся ў сваім новым амплуа злоўжываць папуліcцкімі мерамі. Спрыяльныя дні – 17, 21; крытычны – 20.

**Стралец (23.11 -- 21.12)** Не старайцеся выскачыць са штаноў, каб спадабацца каму-небудзь. Дрэнную рэпутацыю вы ўжо зарабілі, цяпер час хавацца і працаваць над сабой: чытаць, сачыняць вершыкі ці распрацоўваць голас. Спрыяльныя дні – 19, 22; крытычны – 21.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Хопіць маніць. Вашы знаёмыя і так за вашай спіной шэпчуцца, што ў вас непамерная фантазія. Крыху рэалізма вам не пашкодзіць. Да пытання аб асабістым жыцці: тут усё будзе на вышыні. Кожны другі жыхар зямлі падпадае пад вашы чары. Спрыяльныя дні – 16, 21; крытычны – 22.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Ваша эра ўжо настала. У эпоху гуманізму і асветы вы будзеце першым хлопцам (ці дзяўчынай) на вёсцы. Магчыма вы спадабаецеся замежнаму госцю, у якога ў кішэні вечна звіняць еўра і долары. І не забудзьцеся пра тое, што вы калісьці марылі пакарыць навуку ці мастацтва – гэта патрэбны час. Спрыяльныя дні – 18, 22; крытычны – 16.

**Рыбы (20.2 – 20.3)** Распраўляючы плаўнікі да пачатку плавальнага сезона, не забудзьцеся пакінуць пра сябе на сушы добры ўспамін. Адплываючы ў далёкія краіны, раздайце даўгі і памірыцеся з партнёрамі: палавымі, дзелавымі, палявымі. Сяброўскія адносіны да свету прыдадуць вам упэўненасці ў сабе. Спрыяльныя дні – 16, 21; крытычны – 19.



# Які колер, такі і характар

**У кожнага з нас ёсць самы любімы колер, ці некалькі колераў. Мы выбіраем адпаведную вопратку, выкарыстоўваем рэчы любімых адценняў, імкнёмся, каб яны прысутнічалі побач з намі. Псіхолагі лічаць, што колер выбіраецца не выпадкова, а адпавядае нашаму характару.**

Такім чынам, калі вы аддаеце перавагу **чырвонаму колеру**, вы арыентаваны на знешні мір, на грамадства. Вы задаволены жыццём, імпульсіўная асоба, не пазбаўленая сексуальнасці. Такія людзі праяўляюць актыўнасць, заўсёды гатовы да барацьбы. Часцей за ўсё – гэта лідэры. Але любіцелі чырвонага – яўныя кар'ерысты, іх цяжка збіць з пастаўленай мэты.

Не аддаюць перавагу чырвонаму тыя, хто страціў надзею ці расчараваўся ў жыцці. Гэта можа прывесці да замкнёнасці, разрыву сувязяў з грамадствам.

Перавага **аранжавага колеру** лічыцца доказам таварыскага, сяброўскага характару. Яны шчаслівыя і задаволеныя жыццём, лёгка сыходзяцца з людзьмі. Але гэта асобы з ярка выражанай уласнай думкай, нават індывідуалісты. Яны не прымаюць чужых думак і імкнуцца адшукаць свой уласны погляд на свет.

Адмова ад аранжавага можа сведчыць аб імкненні спасцігнуць самога сябе.

**Жоўты колер.** Большасць людзей успрымаюць гэты колер як цёплы, вясёлы, які нагадвае цёплае лета. Сярод тых, хто выбірае жоўты колер, шмат таленавітых інтэлектуалаў. Але і наадварот ён можа быць выбраны людзьмі з неразвітымі разумовымі здольнасцямі. Лічыцца, што прыхільнікі жоўтага імкнуцца да перавагі над людзьмі, начальнікі ад прыроды. У іх могуць быць здольнасці да аратарскага мастацтва.

Найменьшая перавага жоўтага – гэта абмежаванасць, замкнёнасць, раздражнёнасць, дрэнны настрой.

**Зялёны колер** – колер вясны, раслін, прыроды. Яго любяць людзі ўраўнаважаныя, у іх характары няма нечаканасцяў. Іх ідэал – раўнавага ва ўсім. Яны імкнуцца жыць у гармоніі з людзьмі, старанныя на рабоце, па праву заслугоўваюць давер саслужыўцаў.

Калі, на думку даследчыкаў, людзі, якія аддаюць перавагу зялёнаму, павінны быць гарманічнымі асобамі, то антыпатыя да зялёнага – сведчанне асцярожнасці ў жыцці.

**Сіні колер.** Гэта колер надзейнасці самапаглыбленасці, пасьпяховасці. У гэтай групе няма тых, хто валодае ярка выражанымі творчымі здольнасцямі. Сярод іх няма і рэвалюцыянераў. У тых, хто выбраў сіні колер у большай ступені пераважае ўнутраны самааналіз, а не публічныя дэманстрацыі.

Той, хто з непрыязню ставіцца да сіняга, не прымае пачуцця самазадаволенасці сярэдняга класа.

**Пурпурны** – імкненне вызначыцца і пакрасавацца. Не выпадкова гэты колер быў абраны рымскімі імператарамі для сваёй вопраткі. У якасці фарбавальніка выкарыстоўваліся ракавіны малюскаў, якія тады каштавалі вельмі дорага. Даходзіла нават да войнаў, якія развязваліся за права валодання месцамі здабычы такіх малюскаў. Зараз пурпурны колер ацэньваецца як лёгкая нястрыманасць ў самавыражэнні ці проста перабор. Чалавек, які імкнецца да перавагі гэтага колера, хутчэй за ўсё схільны да пачуцця неўпэўненасці і па гэтай прычыне пастаянна імкнецца да псіхалагічнай падтрымкі з боку навакольных.

**Карычневы колер** большасць людзей раздражняе. Гэта колер практычных, прызямленых людзей. Яго прыхільнікі не адабраюць вітання ў аблоках, не будуюць паветраных замкаў і адмаўляюцца ад непамерна высокага палёту думак.

Нянавісць да карычневага хутчэй за ўсё характарызуе чалавека, які сумняваецца ў сапраўднай шматтраннасці ўласнай асобы.

**Чорны колер** па-сапраўднаму цікавы. Часцей за ўсё яго звязваюць з жалобай і смерцю, што зніжае яго папулярнасць. Але людзі – істоты супярэчлівыя. Таму чорны набыў яшчэ характэрную для прыгод аўру небяспечнасці і рамантыкі. Многія бачаць у чорным характэрную складанасць і заблытанасць, таму і аддаюць яму перавагу..

Няма нічога незвычайнага ў тым, што хтосьці актыўна не прымае чорны колер. Ён насычаны жалобай і яго лёгка выбраць як нелюбімы.

**Белы колер** зацвердзіўся ў сваім значэнні вельмі адназначна. Ён адлюстроўвае чысціню і бязгрэшнасць, але яму не хапае звычайнай чалавечай эмацыянальнай насычанасці.

Увогуле белы колер – не самы папулярны.

*Паводле Аллен Р., Фултон Дж. «Лучшие в мире тесты.»*

Набывайце газету **«Вольнае Глыбокае»** ў кіёсках **«Саюздруку»**, у нашых распаўсюджвальнікаў, а таксама ў краме **"МКТ+"**.


**"Вольнае Глыбокае"**
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

**Рэдактар і выдавец:** п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; **тэлефон:** 2 46 14; **E-mail:** vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на **"Вольнае Глыбокае"** абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 14 траўня 2002 г. у 10⁰⁰
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 2711